# Голас Радзімы

№ 43 (2133)
26 кастрычніка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






У мінулым нумары «Голасу Радзімы», у інтэрв'ю, якое даў газеце вучоны і пісьменнік Адам Мальдзіс, мы паведамлялі пра тое, што на Беларусь вернуты бясцэнныя рэліквіі нашага народа — унікальны слуцкі пояс і каштоўнейшы старадрук «Книга о вере единой истинной православной». Анджэй Цеханавецкі, які жыве ў Лондане, але карані якога ў Беларусі, пажадаў, каб гэтыя скарбы занялі свае месца ў Музеі старажытнай беларускай культуры АН БССР і адпаведна ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Днямі ў Беларускім таварыстве «Радзіма» адбылася ўрачыстая перадача скарбаў па прызначэнні, на якой прысутнічалі прадстаўнікі Беларускага фонду культуры, Акадэміі навук БССР, творчых саюзаў, грамадскасці.

НА ЗДЫМКАХ: слуцкі пояс перадае музею старшыня прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» народны мастак СССР Міхаіл САВІЦКІ; унізе — фрагмент атрыманага пояса; на здымках справа — вокладка «Книги...», выдадзенай у Гродне ў 1786 годзе, і дырэктар полацкага музея Таццяна РУДАВА, якой гэта каштоўнасць перададзена.

Фота С. КРЫЦКАГА.







ПЛЕНУМ ЦК КПБ

# ПРАЗ ГОД — З'ЕЗД

**18 кастрычніка ў Мінску адбыўся XV пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, які разгледзеў пытанне аб скліканні чарговага XXXI з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.**

Першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў выступіў з дакладам па гэтаму пытанню, гаварыў аб неабходнасці распрацоўкі Праграмы Кампартыі Беларусі. Абгрунтоўваючы яе неабходнасць, Я. Сакалоў падкрэсліў, што Кампартыя Беларусі супраць федэралізацыі КПСС.

У той жа час істотнае павышэнне самастойнасці, улік нацыянальнага фактару, арганічнае спалучэнне нацыянальных і інтэрнацыянальных каштоўнасцей і інтарэсаў пабуджаюць выпрацаваць Праграму Кампартыі Беларусі.

Разглядаючы палітычны аспект жыцця рэспублікі, першы сакратар ЦК КПБ зрабіў асаблівы акцэнт на выпрацоўцы метадаў палітычнага кіраўніцтва і яго новай канцэпцыі.

Важнае месца ў такой канцэпцыі павінны заняць пытанні развіцця нацыянальнай культуры. Скажам, праблема мовы. Некаторыя таварышы прапануюць прыняць Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы і неадкладна ўвесці яго ў дзеянне. Супраць першай часткі гэтай прапановы пярэчанняў быць не можа. А як быць з другой часткай? Дапусцім, заўтра будзе прыняты такі Закон і неадкладна ўведзены ў дзеянне. На жаль, ён не будзе дзейсны, і нічога, акрамя канфузу, з гэтага не атрымаецца.

Па-першае, гэта пытанне не толькі палітычнае і ідэалагічнае. Яно мае і свае эканамічныя грані. Для таго каб увесці Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў сілу, трэба стварыць неабходную матэрыяльна-тэхнічную базу ў сферах адукацыі, культуры, навукі, гандлю і абслугоўвання, на транспарце, у гарадской гаспадарцы і ў справаводстве. Больш таго, неабходна мець і значную колькасць перакладчыкаў. Сёння ж усяго гэтага пакуль што няма.

Па-другое, нельга недаацэньваць і тое, што ў рэспубліцы пражывае вялікая колькасць рускамоўнага насельніцтва, нацыянальна-змешаных сем'яў.

Па-трэцяе, нельга не ўлічваць і тое, што айчынная і сусветная літаратура — і навукова-тэхнічная, і мастацкая — паступае да нас у асноўным на рускай мове, і штучнае абмежаванне яе вывучэння, валодання ёю можа негатыўна адбіцца на развіцці навукова-тэхнічнага і духоўнага прагрэсу рэспублікі. Акрамя таго, гэта непазбежна прывяло б да аслаблення вузаў дружбы народаў нашай Айчыны, ускладнення міжнацыянальных адносін.

Па-чацвёртае, без павароту грамадскай думкі да моўных праблем пасляховага руху наперад мы не дасягнём. А гэта, як вядома, няпростае пытанне — тут не загадаеш. Наперадзе шматгадовая карпатлівая і мэтанакіраваная работа.

Таму наша задача — старанна распрацаваць і прыняць адпаведныя заканадаўчыя акты, а тэрмін уводу ў дзеянне вызначыць з улікам стварэння ўмоў для іх паўнакроўнага функцыяніравання. Гаворачы ж аб развіцці нацыянальнай культуры, трэба адзначыць, што неабходна нямала папрацаваць, каб забяспечыць такі ўзровень і структуру спажывання культурных даброт, якія будуць у найбольшай ступені адпавядаць мэтам фарміравання гарманічна развітой, духоўна багатай асобы.

Былі зроблены заўвагі і ў адрас сродкаў масавай інфармацыі.

Многія журналісты, як выказаўся каваль Мінскага аўтазавода Я. Шуляк, знаходзяцца ў стане эйфарыі ў адносінах да дзейнасці ўсялякіх франтоў, саюзаў, суполак. І ў той жа час рэдкасцю сталі яркія, глыбокія па змесце публікацыі на тэму працы, якія б раскрывалі высокія маральныя і духоўныя якасці рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі. Прыкрываючыся плюралізмам думак, асобныя выданні навешваюць ярлыкі на партыйныя камітэты і Саветы народных дэпутатаў, на кіруючыя кадры, на тых, хто сапраўды адстойвае ідэалы і каштоўнасці сацыялізму, народа.

Далей так працягвацца не можа. Няхай ніхто не ўспрымае мае словы як спробу «заціснуць» прэсу. Ні ў якім разе. Але мы рашуча выступаем супраць імкнення асобных газет і часопісаў адысці ад партыйных прынцыпаў, скажаць праўду на карысць вузкага асяроддзя асоб.

Пленум пастанавіў склікаць чарговы XXXI з'езд Камуністычнай партыі Беларусі ў верасні 1990 года.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## ВЫСТУПЛЕННЕ А. ГУРЫНОВІЧА

У ходзе агульнапалітычнай дыскусіі на 44-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН выступіў міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч. Ён адзначыў, што цяпер важна дабіцца, каб пазітыўныя працэсы, якія пачаліся ў свеце, насілі незваротны характар.

Праблему ўсеагульнай бяспекі ўскладняюць і новыя экалагічныя пагрозы: забруджванне атмасферы і водных басейнаў, «парніковы эфект», разбурэнне азонавага слою, знікненне лясоў.

Прычым для Беларускай ССР пытанні экалогіі маюць сваю спецыфіку, выкліканую неабходнасцю ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адзначыў далей А. Гурыновіч.

Сёння плошча з рознай ступенню забруджвання радыенуклідамі перавышае ў рэспубліцы 18 працэнтаў усіх сельскагаспадарчых угоддзяў. Затраты і страты, звязаныя са стварэннем зон адчужэння і адсялення, ужо склалі каля 2 мільярдаў рублёў. Намячаецца правесці далейшае адсяленне людзей з забруджаных месцаў. У рэспубліцы распрацоўваецца комплексная праграма на 1990-1995 гады па ліквідацыі вынікаў аварыі і забеспячэнню бяспечнага пражывання насельніцтва на суму 16 мільярдаў рублёў. Шэраг грамадскіх арганізацый Беларусі звярнуліся з заклікам аб дапамозе да суайчыннікаў і ўсіх людзей добрай волі за мяжой, паведаміў А. Гурыновіч.

Міністр замежных спраў БССР у заключэнне адзначыў, што, як паказвае агульнапалітычная дыскусія на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, практычна ўсе дзяржавы — члены міжнароднай суполкі бачаць неабходнасць новых падыходаў да вырашэння праблем, што стаяць перад грамадствам. Ён выказаў упэўненасць, што ў распрацоўцы такога бачання важная роля належыць ААН.

ПОМНІКІ



**Якім быць помніку Францыску Скарыне, што мяркуецца ўстанавіць перад будынкам Акадэміі навук БССР у Мінску ў сувязі з 500-годдзем вялікага славянскага першадрукара і асветніка XVI стагоддзя! Адказ на гэтае пытанне дасць журы рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект манумента. Будзе ўлічана таксама думка мінчан і гасцей беларускай сталіцы, якія змогуць пазнаёміцца з эскізнымі праектамі на выстаўцы, адкрытай у Палацы мастацтва.**
**НА ЗДЫМКУ: наведвальнікі знаёмяцца з экспанатамі выстаўкі.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ГАРАДОК ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ

Ад слоў аб спачуванні і дапамозе інвалідам канкрэтных спраў перайшлі ў грамадскім горадабудаўнічым савеце Пінска. У яго праектах з'явілася схема новага жылога масіву, які атрымаў рабочую назву «Міласэрнасць». Пад жыллё для інвалідаў выканком перадае вялікую частку гарадской тэрыторыі. Пакуль архітэктары інстытута «Брэстграмадзянпраект» заняты падрыхтоўкай патрэбнай дакументацыі, грамадскія работнікі горадабудаўніцтва раяцца з тымі, каму жыць у новым мікраёне. І многія прапановы будучых навасёлаў ужо ўлічаны. Стваральнікі гарадка стараюцца прадугледзець усё, што зможа хоць неяк аблягчыць жыццё яго насельнікаў. Распрацаваны спецыяльныя пасажырскія ліфты, дадатковыя прыстасаванні будуць абсталяваны лесвічныя пралёты і пляцоўкі. Літаральна за некалькі дзесяткаў метраў ад дамоў размесцяцца вучэбна-вытворчыя майстэрні, клуб, спартыўныя залы і пляцоўкі. Паблізу адкрываюцца таксама магазіны і прадпрыемствы службы быту. Словам, усе, хто мае дачыненне да нараджэння гэтага унікальнага раёна старажытнага Пінска, ад шчырага сэрца жадаюць дапамагчы інвалідам забыць пра свае хваробы, адчуць сябе паўнацэннымі, патрэбнымі грамадству людзьмі.

СТВОРАНА АБ'ЯДНАННЕ

## ЗАХАВАЦЬ ТРАДЫЦЫІ ПРОДКАЎ

«Аль-Кітаб» азначае — «кніга». Пад такой назвай пры Мінскім аддзяленні Савецкага фонду культуры створана Татарскае грамадска-культурнае аб'яднанне. Праз пазнанне ардадзіць і захаваць культуру і традыцыі продкаў — такая мэта, якая аб'яднала членаў гэтай новай грамадскай арганізацыі — жыхароў рэспублікі татарскай нацыянальнасці.

У 1997 годзе споўніцца 600 гадоў з часу заснавання на зямлі Белай Русі першых татарскіх паселішчаў. На жаль, дакументальных сведчанняў, гістарычных помнікаў гэтай пары практычна не захавалася. Забыта мова, адраджэння патрабуюць народныя промыслы. Сёння дзейнічае толькі адна мячэць XIX стагоддзя ў Іўі... Таму актывісты «Аль-Кітаб» пачынаюць сваю дзейнасць з вывучэння мовы, гісторыі, з наладжвання кантактаў з этнічнымі татарамі ў краіне і за яе межамі.

ГАСПАДАРЛІВАСЦЬ

## ХАЛАДЗІЛЬНІК — ЗА ВАЛЮТУ

Камплект высакаякаснага імпартнага абсталявання для халадзільніка набыў аграпрамысловы калгас-камбінат «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Аснашчаны камерай так званага хуткага замарожвання, ён прызначаны для працяглага захоўвання садавіны, агародніны, ягад і іншай прадукцыі. Дарэчы, абсталяванне, мантаж якога толькі што пачаўся, каштавала гаспадарцы больш чым паўмільёна долараў.

Адкуль паявілася ў «Прагрэсе» уласная валюта? Па кантрактах з зарубежнымі фірмамі калгас пастаўляе замарожаныя субпрадукты са сваёй бройлернай фабрыкі, а таксама выробленыя уласным падсобным прадпрыемствам наборы мэблі для ванных пакояў, бланшыраваныя грыбы, мяса дзічыны. Так, на рахунак гаспадаркі, адкрыты ў Беларускім рэспубліканскім банку Знешэканомбанка СССР, з Галандыі, Швецыі, ФРГ, Аўстрыі за год паступіла 1,3 мільёна долараў. Частку валюты выдаткавалі на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі, сеялкі дакладнага высявання з электронным «мозгам», элітнага насення кармавых бабоў. Сродкі спатрэбяцца і на закупку абсталявання для камбікормавага завода, «начынку» калгаснага фірменнага гандлёвага комплексу, які намечана адкрыць у абласным цэнтры, для далейшай камп'ютэрызацыі вытворчасці і кіравання.

Створаная для экспартна-імпартных аперацый гаспадаркі знешнегандлёвая фірма «Прагрэс», прадстаўнікі якой працуюць таксама ў Маскве, імкнецца расшырыць узаемавыгадныя кантакты з зарубежнымі партнёрамі. Для гэтага нарошчваюцца магутнасці сталярна-мэблевага прадпрыемства, іншых падсобных вытворчасцей, вось-вось уступіць у строй першая чарга цяплічнага камбіната і фермы па гадоўлі норак, пачалося развядзенне азёрных ракаў.

НЕ МАЕ АНАЛАГАЎ

## ПАМОЧНІК ЛЕСАРУБАЎ

Сапраўдным універсалам паказала сябе ў лясной глухамані новая машына, вырабленая на Мазырскім заводзе меліярацыйных машын.

За лічаныя мінуты агрэгат здольны «перакваліфікавацца» з бульдозера ў аўтагрэйдэр, а пры неабходнасці і ў пагрузчык для сыпучых матэрыялаў. Дзякуючы канструктарскім асаблівасцям, машына, створаная на базе лесапрамысловага трактара К-703М, можа перамяшчаць грунт, лясное смецце не толькі перад сабой, але і па абочыне дарогі.

Як паведамілі ва Усесаюзным навукова-вытворчым аб'яднанні лясной прамысловасці, новая машына па сваіх параметрах не мае аналагаў у сусветнай практыцы дарожнага машынабудавання, а яе даволі вялікая для такой тэхнікі скорасць і высокая манеўранасць асабліва каштоўныя ў цяжкадаступных раёнах сібірскай тайгі. Туды універсал і адпраўляецца ў бліжэйшыя дні на выпрабаванні.

МУЗЕІ





**«Дзеці ліхалецця» — так называецца музей, створаны нядаўна ў Наваельнянскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна. У аснову яго экспазіцыі леглі матэрыялы і дакументы, якія расказваюць пра лёс дзяцей мясцовага дзіцячага дома і міжнароднага піянерскага лагера «Наваельня», які размяшчаўся тут і дзе разам з савецкімі дзецьмі праводзілі лета і дзеці палітэмігрантаў. У грозным 1941-м усіх іх тут напаткала вайна.**
**Мужна пераносілі дзеці цяжар фашысцкай акупацыі. Але многія не вытрымалі пакут, голаду, хвароб. На месцы пахавання, а спачываюць тут 70 дзяцей, цяпер створаны мемарыяльны комплекс.**
**У школьным музеі ўжо больш тысячы экспанатаў. Яго наведваюць нашы суайчыннікі, госці з-за мяжы — усе тыя, хто прысвяціў сваю грамадскую дзейнасць абароне міру, таму, каб не было больш на нашай зямлі «дзяцей ліхалецця».**
**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльны комплекс «Дзеці ліхалецця» ў Дзятлаўскім раёне, дзе пахаваны юныя грамадзяне нашай краіны і дзеці палітэмігрантаў; аб гісторыі стварэння музея членам дэлегацыі «Хрысціянская служба міру» з ФРГ расказвае кіраўнік музея Тамара КРЫВЕНЯ (у цэнтры).**

*АРХІТЭКТАР І ПЕРАБУДОВА*

# КААПЕРАТЫЎ «РЭАБІЛІТУЕ» ПРАФЕСІЮ

— ПА ЧУЖЫХ праектах мы не працуем, — сказаў мне старшыня кааператыва мастацка-афарміцельскіх работ «Дэкор» Юрый Раманаў. — Ствараем свае. Я сам член Саюза архітэктараў СССР, з 30 чалавек, занятых у кааператыве, добрая палавіна — таксама архітэктары. Скажу больш: пасля завяршэння работ на аб'екце праекты мы знішчаем, каб не было спакусы паўтарыцца...

Гэтая ідэя Юрыя Раманава была адной з вядучых, калі ў канцы 1986 года ён, тады яшчэ супрацоўнік адной з праектных арганізацый Гродна, прапанаваў сваім калегам звольніцца з работы ў дзяржаўнай установе і арганізаваць кааператыў. Аргументаваў сваю прапанову неабходнасцю грамадскай рэабілітацыі самога паняцця «архітэктар».

Ход яго разважанняў быў такі: спакон веку дойлід, працуючы над сваім творам, няхай гэта будзе палацавы комплекс ці толькі інтэр'ер якой-небудзь залы, даводзіў яго, як правіла, да поўнага завяршэння работ. Так было і ў нас аж да нараджэння ў 50-я гады тэхналогіі заводскага домабудавання. Са з'яўленнем яе архітэктары, па сутнасці, пазбаўлены магчымасці ўплываць на ход рэалізацыі сваіх задум. У канчатковым выніку яны ператварыліся ў канторскіх служачых, занятых чыста папяровай працай, у якую да таго ж на розных інстанцыях узгадненняў і зацверджанняў уносяцца шматлікія, часам непрафесійныя папраўкі.

Вось і ўзнікла ідэя: чаму б некалькім спецыялістам не аб'яднацца і не паспрабаваць адрадзіць прэстыж гэтай старажытнай і паважанай у народзе прафесіі?

Не ўсім, з кім размаўляў на гэтую тэму Юрый Раманаў, ідэя спадабалася. Навошта, пыталіся іншыя яго субяседнікі, зрывацца з наседжанага месца, адмаўляцца ад гарантаванага заробку дзеля нейкай, няхай знешне і прывабнай, але рызыкоўнай задумы? Тым не менш энтузіясты знайшліся. І вось у пачатку 1987 года ў Гродне з'явіўся кааператыў «Дэкор».

— Крэдыт у дзяржавы мы не бралі, — гаворыць Юрый Раманаў, — пачалі працаваць практычна без першапачатковага капіталу. Адразу агаваруся: ніхто нам не перашкаджаў атрымаць гэтыя грошы. Мы самі адмовіліся ад іх па дзвюх прычынах: першая — не было жадання з самага пачатку браць пазыку, якую потым усё роўна давялося б аддаваць з працэнтамі; другая — і, бадай, галоўная — хацелася, беручыся за самастойную справу, поўнасцю праверыць сваю здольнасць даводзіць яе да канца без староняй дапамогі. Праўда, спачатку было цяжкавата. Над праектамі даводзілася працаваць у часова прыстасаваных памяшканнях, а то і проста дома. Ды і заробкі былі невялікія: ледзь дасягалі 200 рублёў, гэта значыць ніжэйшыя за сярэдні ўзровень па краіне...

Паўстае пытанне: адкуль жа «Дэкор» увогуле бярэ грошы на зарплату, няхай і нават невялікую? Справа ў тым, што кааператыў адразу ж узяў у горада некалькі буйных заказаў: на аздабленне інтэр'ераў Музея народнай творчасці, магазіна для маладажонаў, адной з гасцініц. Па гэтых дагаворах ён атрымаў авансы.

Грошы гэтыя, па ўзаемнай згодзе, пайшлі не толькі на аплату працы. На іх кааператары набылі ў горада стары двухпавярховы будынак, рамонт якога зрабілі ўласнымі сіламі, не спыняючы работ на дагаворных аб'ектах. Сёння ў гэтым доме знаходзяцца і кантора кааператыва, і кабінеты праекціроўшчыкаў, і майстэрні мастакоў.

«Дэкор» ужо моцна стаіць на нагах. Найбольш наглядна пра гэта сведчыць яго фінансавае становішча. Сярэднямесячныя заробкі яго работнікаў перавалілі за 600 рублёў (у два з палавінай разы больш сярэдняй зарплаты ў дзяржаўным сектары эканомікі). І гэта пры тым, што значная частка сродкаў ідзе на развіццё вытворчай базы, а таксама падаткі, страхаванне і да т. п.

— Цяжкасці па першым часе не толькі з грашамі, — працягвае старшыня. — Узяць хаця б забеспячэнне кааператыва будаўнічымі і аддзелачнымі матэрыяламі. Спачатку ў нас не было магчымасці набываць іх. А без іх мы як без рук. Што датычыць матэрыялаў заказчыка, то з імі заўсёды ўзнікалі праблемы: то камень не той фактуры, то шкло ці піламатэрыялы не адпавядаюць праекту. І вось у гэтай няпростай сітуацыі даводзілася, як гаворыцца, круціцца: адначасова з асноўнай работай наладжваць адносіны з забеспячэнскімі ці будаўнічымі арганізацыямі, дамаўляцца з імі аб пастаўках і нават упрошваць.

Сёння гэты бар'ер пераадолены. У аддзелачных і будаўнічых работах мы скарыстоўваем свае матэрыялы. Праўда, іх дэфіцыт у краіне існуе, але мы знаходзімся не ў горшым становішчы, чым дзяржаўныя будаўнічыя арганізацыі...

Усе гэтыя пытанні — чыста вытворчыя. Ну а як жа «Дэкор» у першыя месяцы свайго існавання пры такіх нізкіх заробках вырашыў кадравыя пытанні?

— Якраз спачатку кадравай праблемы ўвогуле не існавала, — гаворыць Юрый Раманаў. — Менавіта тады склалася ядро калектыву, група аднадумцаў. І імкнуліся мы ўсе да таго, каб атрымаць магчымасць раскрыць свае творчыя здольнасці і знайсці сферу прымянення нашым прафесіянальным ведам, няхай нават цаной часовай шкоды для асабістага дабрабыту. А гэта ядро, як магніт, прыцягнула да сябе і некалькі іншых гарадскіх спецыялістаў, якія імкнуліся да той жа мэты. Дарэчы, усе яны, як і асноўны склад кааператыва, маюць вышэйшую архітэктурную або мастацкую адукацыю.

Кадравыя складанасці ўзніклі пазней, летась, калі нашы заробкі ўдвая перавысілі сярэднія па краіне. Вось тут людзі да нас пацягнуліся. Спачатку мы прымалі жадаючых ахвотна. Але неўзабаве высветлілася, што не ўсе нам падыходзяць: адных цікавілі толькі грошы — такія нам не патрэбны. На жаль, давялося расстацца і з тымі, хто не вытрымаў экзамен на кваліфікацыю.

Цяпер, прымаючы чалавека на работу, мы даём яму 3-месячны выпрабавальны тэрмін. Ды і ўмовы прыёму жорсткія: кандыдат павінен валодаць па меншай меры трыма патрэбнымі «Дэкору» спецыяльнасцямі. Зрэшты, гэта патрабаванне не толькі да навічкоў: кожны член кааператыва — архітэктар гэта, мастак ці сталяр-чырванадрэўшчык — у выпадку неабходнасці можа працаваць і бетоншчыкам, і мулярам, і аддзелачнікам... А гэта яшчэ адзін з элементаў рэалізацыі ідэі работы над аб'ектам ад праекта да здачы яго «пад ключ».

* * *

«Дэкор» паступова расшырае сферу сваёй дзейнасці. Цяпер ён працуе над выкананнем самага буйнога за час свайго існавання заказу — будуе эксперыментальную сельскую школу. У адрозненне ад падобных ёй яна будзе не толькі аснашчана па апошняму слову тэхнікі, але і па-мастацку аформлена так, каб у школьнікаў з дзяцінства развіваўся эстэтычны густ.

Расшырылася і геаграфія дзелавых сувязей. Сёння кааператыў выконвае заказы і ў горадзе, і за яго межамі; мае справу не толькі з арганізацыямі, але і з радавымі грамадзянамі. Па заказах апошніх кааператары пабудавалі два дзесяткі дачных домікаў. Характэрная дэталь: кожны домік узведзены па індывідуальнаму праекту і здадзены «пад ключ». Прычым кааператыў не толькі пабудаваў, але і мэбляваў іх. І ўсё гэта — за 5 тысяч рублёў (у разліку на кожны). Для параўнання: у іншых рэгіёнах краіны цана адной такой пабудовы, узведзенай па тыповаму праекту і без усякай унутранай «начынкі», у два разы вышэйшая.

І. МІХАЙЛАЎ.



**Залескі сельскі савет Глыбоцкага раёна — адзін з тыповых для Віцебшчыны. На яго тэрыторыі размешчана тры невялікія калгасы, дзе пражывае звыш 1 860 чалавек, але з іх толькі 44 працэнты працаздольных. Астатнія пенсіянеры сталага веку. І, вядома ж, гэта накладвае свой адбітак і на жыццё вёсак, многія з якіх нараклі неперспектыўнымі, і на работу старшыні сельскага Савета Галіны Дылевіч. Усяго два гады, як выбралі яе на гэтую пасаду, а затым і народным дэпутатам СССР. Усе намаганні старшыні разам з кіраўнікамі мясцовых гаспадарак былі накіраваны на паляпшэнне бытавых умоў сялян. Па ініцыятыве сельсавета адкрылі ў многіх вёсках лаўкі дома, дзе, акрамя тавараў першай неабходнасці, можна зрабіць заяўку на тавары, якія карыстаюцца павышаным попытам.**

**НА ЗДЫМКАХ: прыгожыя мясціны на Глыбоччыне; новая вуліца вырасла ў вёсцы Залессе — цэнтральнай сядзібе калгаса імя Леніна; Галіна ДЫЛЕВІЧ часта бывае ў дзіцячым садзе вёскі Лучайка.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**





## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




У апошнія год-два гістарычная тэма заняла, бадай, вядучае месца і ў газеце «Голас Радзімы», і ў тых кнігах і брашурах, што выдае рэдакцыя. Але гэта з'ява не лакальная, чурс не толькі аднаго беларускага выдання. Цікавасць да сваёй гісторыі, ліхаманкавы пошук адказаў на многія пытанні нашай мінуўшчыны — гэта, можа, інтэлектуальная эпідэмія, што ахапіла ўсе слаі грамадства, эпідэмія, праз якую трэба прайсці кожнаму, каб канчаткова ачуняць. Погляд з дня сённяшняга, з сучасных пазіцый, калі крышацца сцены догмы і ламаюцца прапагандысцкія стэрэатыпы, дазваляе нам лепей усвядоміць шлях, які прайшла Беларусь за 70 савецкіх гадоў.

«Цяжка назваць іншы нацыянальны рэгіён краіны, дзе б так драматычна складваліся ўмовы барацьбы працоўных за новую ўладу», — сцвярджае вядомы савецкі вучоны Вадзім Круталевіч. Гэтыя радкі ўзяты з яго новай кнігі «Станаўленне дзяржаўнасці, якая выйшла ў «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы». Доктара юрыдычных навук, прафесара Вадзіма Круталевіча не трэба прадстаўляць ні нашаму ўнутранаму, ні замежнаму чытачу. І не толькі таму, што ён часты госць «Голасу Радзімы» — аўтар многіх артыкулаў, што друкаваліся на старонках газеты. Вадзім Круталевіч вядомы як вучоны, прынцыпамі якога заўсёды былі аб'ектыўнасць, разважлівы, непрадузяты падыход да гістарычных падзей.

Як вынікае з самога загалоўка, з поўнай назвы кнігі, яна напісана з нагоды 70-годдзя абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а значыць, з нагоды юбілею, які наша нацыянальная дзяржава адзначала сёлета 1-га студзеня. Але не спяшайцеся адкласці ў бок кнігу В. Круталевіча — у ёй няма ні юбілейнага фіміяму, ні ўрачыстага звону літаўраў. Тады што ў ёй? Ёсць пэўныя падзеі і факты, ёсць людзі — канкрэтныя дзеючыя асобы на гістарычнай сцэне, ёсць канцэпцыя даследчыка, у якой і падзеі, і факты, і людзі, і палітычныя сілы атрымліваюць рэальную расстаноўку.

Самае галоўнае, на мой погляд, што вызначае пазіцыю вучонага, — гэта разбурэнне той прапагандысцкай схемы, паводле якой ва ўсіх дасюлешніх навуковых працах, падручніках трактавалася ўтварэнне БССР. В. Круталевіч паказвае, што хаваецца за энцыклапедычнай фразай: «БССР — суверэнная сацыялістычная дзяржава рабочых і сялян, утворана ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». За ёй і супраціўленне Абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці (Аблвыкамзах) супраць усялякіх тэндэнцый нацыянальнага самавызначэння Беларусі ў імя ідэі «сусветнай рэвалюцыі», і цвёрдая пазіцыя Белнацкома на чале з будучым першым старшынёй урада БССР З. Жылуновічам дамагчыся рэалізацыі для свайго народа таго права, якое дала яму Кастрычніцкая рэвалюцыя, — утварыць нацыянальную дзяржаўнасць, і рашэнне зверху, Цэнтральнага Камітэта РКП(б), па ініцыятыве У. І. Леніна, аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Спакойна, без катэгарычнага навешвання ярлыкоў, разглядаюцца і тыя сілы, якія стаялі на палярных пазіцыях, не падзялялі поглядаў і імкненняў бальшавікоў.

Кніга В. Круталевіча носіць палемічны характар і ні ў якім разе не прэтэндуе на абсалютную ісціну. Пра новы падыход да старой, амаль кананізаванай тэмы гавораць ужо самі назвы некаторых раздзелаў: «Супраціўленне абласніцтва», «Белнацком супраць Аблвыкамзаха», «Паварот: рашэнне зверху» і г. д. Спадзяёмся, што чытачу кніга В. Круталевіча «Станаўленне дзяржаўнасці» прынясе плённыя гадзіны роздуму аб складанай гісторыі нашай рэспублікі і дадасць нешта новае да таго, што ён ведаў.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

## У МІНСКУ ПРАЦАВАЛІ КУРСЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

# УСЕ ТРЫ ТЫДНІ ШЧАСЛІВЫЯ

АМАЛЬ тры тыдні залатога «бабінага» лета падарыў Мінск руплівым курсантам, якія вучыліся ў нас песням і танцам, авалодвалі хто азамі, а хто і ўдасканальваў сваё дырыжорскае майстэрства.

Як і штогод, курсы былі арганізаваны Міністэрствам культуры БССР і Беларускім таварыствам «Радзіма», праводзілі іх высокакваліфікаваныя вопытныя ўжо ў рабоце з такім кантынгентам слухачоў выкладчыкі.

Займаліся ж у нас сёлета ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з Бельгіі і Галандыі, з Польскай Народнай Рэспублікі. Адметным можна назваць тое, што з Бельгіі прыехалі зусім не нашы суайчынніцы, а дзве маладыя бельгійкі Петра Дэдэкер і Карын Бэтэнс з Антверпена, якія займаюцца ў інстытуце і адначасова вывучаюць рускую мову, нядрэнна ёю валодаюць, займаюцца ў мастацкай самадзейнасці, спяваюць рускія песні.



— А цяпер палюбілі і беларускія, — гаворыць Карын. — Асабліва «Купалінку». Але самае дзіўнае, што мы навучыліся танцаваць. Я, напрыклад, ніколі не думала, што буду танцаваць, не заўважала за сабой такіх здольнасцей.

Карын была нястомнай у танцах, адной з лепшых у «Лявонісе». «Мы ія шчаслівыя. Усе тры тыдні шчаслівыя», — паўтарала пра сябе і Петра.

«Усе тры тыдні шчаслівыя», — так думаў, бадай, кожны з удзельнікаў курсаў, але найбольш ім запомніліся дні першы і апошні. Першы, дасны, калі пачыналася жыць, напоўненае цікавымі справамі і сустрэчамі, знаёмствам з новымі людзьмі і горадам Мінскам, яго ваколіцамі. Апошні, афарбаваны сумам развітання з усім, што стала блізкім. Ён пачаўся ў інстытуце культуры, дзе яны здавалі «экзамен», паказвалі ўсё, чым авалодалі, а закончыўся ў гасцініцы «Юбілейная» на развітальным вечары. На сустрэчу з курсантамі прыйшлі выкладчыкі інстытута, супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», выдатныя беларускія артысты — спевакі Валянціна Пархоменка і Аляксандр Казак, баяніст Фёдар Паўлавец, якія толькі што вярнуліся са Злучаных Штатаў Амерыкі. Як і там, за акіянам сярод землякоў, беларускія народныя песні ў іх выкананні выклікалі і слёзы, і ўсмешкі, прымушалі суперажываць і захапляцца тонкім разуменнем артыстамі фальклорнага мастацтва, беражлівымі адносінамі да яго.

І зноў, як на экзамене ў інстытуце, спявалі і танцавалі ўдзельнікі курсаў, шчыра дзякавалі ўсім, хто меў дачыненне да іх навучання.

— Вы дапамаглі нам паверыць у сябе, у свае сілы, — сказаў Яраслаў Місеюк з Польшчы.

Як і многія землякі за мяжой, беларусы на Беласточчыне спяваюць родныя песні таму, што матчына песня становіцца з калыскі і назаўсёды сімвалам Бацькаўшчыны, моцна знітоўваючы з ёю на ўсё жыццё.

На Беласточчыне добра ведаюць ансамбль «Хлопцы-рыбалоўцы» з вёскі Рыбалы, якім кіруе Мікалай Ігнацюк. Цікавы, шчыры і па-свойму таленавіты чалавек. Даўно заўважыў у сабе дар «сачыніцельства» і за жыццё стварыў многа песень, якія ахвотна слухаюць у вёсцы, спяваюць у ансамблі. Нават на курсах таварышы прасілі: «Сачыні, Коля, пра наша тутэйшае жыццё песню». І, развітваючыся, курсанты перапісалі ў свае сшыткі вершы М. Ігнацюка, у якіх быў бясхітрасны, але шчыры аповяд пра людзей, падзеі, што адбываліся ў Мінску, пра яго «вулічную зеляніну», пра інсти і выкладчыкаў.

Нарадзіўся Мікалай Уладзіміравіч у мнагадзетнай сям'і, дзе было сем дзяўчынак і адзін хлопчык. І ў маладосці, і зараз, у сталыя гады, працуе на гаспадарцы, займаецца спрадвечнай нялёгкай сялянскай працай. Як і ў маладосці, так і сённяя душа просіць песні, прагне паэтычнага слова.

— Лепш за ўсё сачыняецца за працай, — расказвае Мікалай Ігнацюк. — Як ару зямлю або барaную, то найлепш песні складаюцца. Пішу песні з жыцця Палесся ці са свайго ўласнага жыцця і назіранняў, перакладаю на вершы гісторыі, што чую ад людзей. Людзі іх так добра слухаюць, мусіць, таму, што ўсё ім зразумелае.

Мікалай Уладзіміравіч называе розныя тэмы сваіх твораў і спыняецца на баладзе пра вёску Райск, якую гітлераўцы знішчылі ў час другой сусветнай вайны, а людзей расстралялі.

— Яе лёс падобны на лёс вашай Хатыні, — гаворыць Ніна Грыгарук, але ёй пярэчыць Тоня Дамброўская:

— Не да канца падобны. Людзі Райск адбудавалі. Ад каменя пачыналі жыццё, але аднавілі. І царкву пабудавалі, хоць і дзеравянную. Я і сама цяпер ў Райску жыву. Замуж туды пайшла.

Вёску фашысты падпалілі 16 чэрвеня 1942 года (а папярэдне вывезлі брук, разабралі царкву з цэглы), расстралялі 149 чалавек.

— Якраз ільны палолі. Ветру ў той дзень не было, і над лесам доўга стаяла хмара. Народ пабілі, вёску зааралі,—гэтыя далёкія ўспаміны не давалі спакою Мікалаю Уладзіміравічу, пакуль не склаліся ў вершы. — Вёска аднавілася, але няма ў ёй старых людзей, няма і старых дрэў.

У час знаходжання ў Мінску Мікалай Ігнацюк быў запрошаны ў Дом літаратараў, дзе меў сустрэчу з вядомым беларускім пісьменнікам Васілём Зуёнкам.

— Сустрэча з Зуёнкам была карыснай. Бадай, дзве гадзіны мы прагаварылі. Ён пытаўся, як я пішу, даваў парады.

У інстытуце кампазітар Уладзімір Гурба-Новік з касеты зрабіў запіс некалькіх песень Мікалая Ігнацюка, навучыў яго пачатковай нотнай грамаце.

— Буду спрабаваць цяпер сам працаваць з нотамі, — гаварыў з задавальненнем Мікалай Ігнацюк.

Як і многія іншыя курсанты, Мікалай Уладзіміравіч павёз дадому новыя веды, новыя песні, а самае галоўнае — з'явілася вера ў сябе, свае сілы, атрымана ацэнка той працы, якая дае спачын душы, прыносіць задавальненне і радасць людзям.

Нашы кантакты з тымі, хто бывае на курсах, не перарываюцца. Зноў сёлета прыязджала да нас Валянціна Міцэвіч з Кляшчэляў. У канцы мінулага года «хрысцілі», назваўшы «Калінай», калектыў, якім яна кіруе. Толькі здзіўляцца варта, як паспявае і працаваць на сваёй гаспадарцы, і ў краме, а яшчэ і спяваць гэтая энергічная прывабная жанчына. Мусіць, таксама дапамагае любоў да песні, да добрай карыснай справы. І мы жадаем поспехаў усім тым, хто любіць і шануе родную песню.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: курсанты на экскурсіі ў Хатыні; у танцавальнай зале; развучваем новую песню.**
**Фота С. КРЫЦКАГА.**





# IN FACE OF PRESSING PROBLEMS

*In an interview granted to journalist Vyacheslaw Khodosovsky, Yevgeni VOITOVICH, Minister of Culture of the Byelorussian SSR, describes new trends in the sphere of culture and the different new forms of people's participation in cultural activity.*

**The restructuring process in the USSR involves the sphere of culture, among others. What basic changes are taking place in cultural development today?**

A revision of the place and role of culture in society's life, the democratization of the conditions of culural work, and a search for new possibilities intended to draw wide sections of the population into cultural activities are going on today.

The development of the material base facilitates the solving of the entire complex of problems. The attitude to culture as some "unnecessary makeweight" typical of the stagnation period is being overcome. Compared to 1985, capital investments in this sphere have trebled. These funds will enable us to double the number of clubs and houses of culture in the countryside in the near future. There are some other significant and encouraging facts. A republican House of Culture is now being built in Minsk. It will have a multi-purpose concert hall meeting the highest modern standards. Substantial changes are expected in the development of the material base of theatrical and entertainment organizations in Byelorussia. The drama theatres in Brest and Mogilev and the puppet theatre in Grodno will be reconstructed. An open-air concert stage has been built in Vitebsk where the first festival of Polish songs in the USSR was held with success. In the near future, new philharmonic halls will be built in Gomel and Mogilev and the exhibition area of the art museum in Minsk will more than double. An unparalleled growth in the construction of cultural facilities is now taking place.

**In what way are the restructuring processes in the field of culture linked with the main goals set by the World Decade of Cultural Development?**

The purpose of the Decade is to draw the attention of states and the public at large to the importance of culture in the peoples' life, as well as to international cultural cooperation as a means of promoting mutual understanding among nations. The same goals are pursued by our state.

As far as Byelorussia is concerned, at the first stage of this Decade we set ourselves the task of reaching a qualitatively new level in the development of national culture. This is impossible unless we first of all accomplish the tasks proclaimed by the Decade such as the assessment of the cultural aspect of development, as well as the development and enrichment of distinctive national cultures.

The attitude to the restoration of cultural and architectural monuments is significant. We regard this work as a means of the expansion of the material base of culture. By 1990, it is planned to increase the volume of restoration work five-fold compared with the 1985 figure. Twenty-five architectural monuments will be restored and turned into cultural centres, among them palaces and parks in the village of Mir and the town of Nesvizh, the former Polish Roman-Catholic churches in Mogilev and Grodno and the Catherdal of the Assumption in Mstislavl. The historical centres of old cities — Polotsk, Vitebsk, Mogilev, Mstislavl and Minsk — are being turned into museum areas and the cultural environment in the museum-tourist zones is being restored.

By doing away with the dictate and excessive patronage of central agencies and eliminating bureaucratic barriers we'll be able to expand our participation in international cooperation. This process has already started.

**Obviously, a more intensive development of the material base of culture should lead to the greater involvement of the population in cultural activities, shouldn't it?**

This problem is being dealt with along several lines. For instance, new concert organizations and creative collectives are being formed today which makes it possible to increase the direct involvement of people in the sphere of music and art. Recently, the State Symphony Orchestra and the State Variety Orchestra of the Byelorussian SSR, as well as a number of philharmonic societies and variety show groups have been organized. Philharmonic societies will also be opened in Vitebsk and Mogilev.

The elaboration of a comprehensive republican programme for the aesthetic education of the population is of major importance. Its aim is to coordinate the efforts of all cultural institutions in organizing the life-long aesthetic education of people starting from an early age. This programme sets concrete tasks. For instance, the extension of the network of children's music schools whose number will nearly double by 1995 to reach 900. New art and music secondary boarding-schools will be opened in all the regional centres of Byelorussia, and art schools in all district centres. Artists and scientists will take an active part in implementing these plans.

**Speaking about broad cultural exchanges, we should not forget the problem of the interaction between the national and the international in culture.**

Indeed, this is still an acute problem. One way of solving it is to support national traditions in every possible way and at the same time to acquaint people with the cultural achievements of other nations. Today much is being done to develop national culture in Byelorussia. The works of new Byelorussian playwrights have appeared in the repertoires of our theatres in recent years. More books are being printed in Byelorussian. Today, the republic's population discusses the plans to build monuments to outstanding national cultural figures. A Byelorussian museum of folk architecture and life-style is being set up.

Along with this, there will be ample opportunity for Byelorussians to acquaint themselves with the culture and art of the peoples of the USSR and other countries.

# TO PRESERVE FOR THE FUTURE

**— this is how members of the Byelorussian Society for the Protection of Historical and Cultural Monuments understand their mission. Below, Galina SAVCHENKO, Deputy Chairman of the Society's Presidium, describes their activities.**

In conformity with the main article of the 1972 UNESCO Convention Concerning the Protection of the World Cultural and Natural Heritage, each country is obliged to ensure the protection of its monuments.

At present, the Republic has over 15,000 structures under state protection. Many of them are fine works of art which are, at the same time, of unique value to science. For instance, excavations of the Upper Paleolithic camps sites in the villages of Yurevichi and Berdyzh (Gomel Region), the artifacts of the Early Stone Age, and the burial mounds help us to gain a deep understanding of the ancient history of the Byelorussian land.

How are we to preserve them? Unfortunately, not all people understand how important it is to take good care of the historical heritage. Sometimes, amelioration, construction and road-building work is carried out without consulting archaeologists. As a result, dozens of mounds have been drilled through. It also happens that old buildings (historical or cultural monuments) house organizations which treat them rather negligently.

Set up in 1966, our society is trying to prevent a negligent attitude towards historical and cultural monuments. It has carried out great work to identify and list all the objects to be placed under protection and published the *Catalogue of the Historical and Cultural Monuments of Byelorussia*, the first ever in the Republic. On our recommendation, all archaelogical monuments will be marked on the maps of land use and will be provided with special protection signs.

Besides a great number of separate monuments, Byelorussia has several city-museums. Programmes have been drafted to restore 38 such cities. Among them are Polotsk founded in 861, Brest (1019), Vitebsk (1021) and Mstislavl (1156). Members of our society t[illegible] part in drafting projects fo[illegible]ir restoration.

Annually, we allocate some 300,000-350,000 roubles for the restoration and protection of monuments. We financed the restoration work on more than 20 monuments, including such famed ones as the former St. Roch's Polish Roman-Catholic Church in Minsk, the church in the village of Raubichi, and the Assumption Polish Roman-Catholic Church in Mstislavl. Great attention is paid to the restoration of the castles in Mir and Lida.

The society seeks to involve broad sections of the public in its work. With this aim in view, society members read lectures at higher educational establishments and enterprises and write articles for the press. The citizens of our Republic (and without their help we simply cannot do) grow more active with every passing day. Special groups, rather like branches of our society, have been set up in almost all the towns of Byelorussia. Members of the Uzgorie association (Vitebsk) restore the buildings of the two former churches — the Church of the Intercession and St. Barbara's Church. A youth movement has been launched in Minsk: on their days-off YCLers go to the sites of archaeological excavations to help specialists restore the ancient historical centre of the Byelorussian capital — the Upper Town.

The building of the underground in Minsk confronts our society with many problems. We are very much concerned about the buildings under which the second line of the underground should pass. At our request, construction work has been stopped. Now, amendments are being introduced into the project and measures are being taken to strengthen the buildings.

# The Return of the Upper City

**The Minsk City Soviet has decided to restore the oldest part of the Byelorussian capital — the Upper City — within the next five or six years. It will be a cultural historical centre with museums, exhibition and concert halls, stores and cafes.**

During the years of occupation the nazis laid Minsk waste. When the Soviet arm[illegible]erated the city there were only 50,000 reside[illegible] — one-fifth the pre-war population.

"The people were living in barracks and it was urgent to build housing, hospitals and schools," the city's chief architect, Yevgeny Kovalevsky, told us. "Halfdestroyed buildings including several architectural monu[illegible]s were rebuilt to meet the urgent needs of t[illegible]opulation. In the 60s and especially the 70s, however, we were unjustifiably neglectful of the need to bring back to life the surviving islets of our architectural heritage, considering it to be of secondary importance. Today it is our prime concern.

"The year 1980 was the turning point. That was when the restoration of the Troyetsky neighbourhood began. It is a small housing estate at the bend of the river Svisloch. Most of houses are two or three-storey affairs erected in the 19th century. In terms of historical and cultural value this region isn't the most important of what has come down to us. But ist buildings were in the worst condition so we decided to start with them. Now the work there is nearing completion and the restorers having gained useful experience will begin reconstructing the oldest part of Minsk — the Upper City."

We set off down its narrow streets with Yevgeny Kovalevsky.

"This region was greatly damaged during the war, but preserved its foundations. Over five centuries — from the 16th century up to the 1930s — it was the social and cultural centre of Minsk," the chief architect went on. "The traditions of the medieval, renaissance, Baroque and classical architecture all merge here. All the crucial historical and cultural events in the long history of the city and the Republic are associated with this place — the establishment of self-government, the organization of trades into shops, national-liberation and revolutionary movements, and the literary, musical, theatrical and artistic activity of the founders of Byelorussian culture. Its main square (then called High Market) was the inhabitants' favourite place. Fairs and shop and town holidays were celebrated here. Chamber and band music often sounded from the balconies of the Town Hall."

"Unfortunately," Kovalevsky said, "the Town Hall, along with the clock tower, the monastery church and several other valuable monuments, was lost. If they aren't restored, the Upper City would appear as only a group of sundry buildings. It would lack architectural integrity and the striking expressiveness contemporaries admired so much."

"Does that mean that you intend to build these monuments anew?"

"Yes, even though this is a very extreme measure to take in restoration. But it's inevitable since it is not a matter of individual monuments but missing elements of an architectural ensemble. We'll assure their historical authenticity as we have specifications and blueprints, pictures and photographs of the missing buildings. Moreover, their foundations and basements have been preserved. These are a big help to the designers."

"I hear that the public is closely following the reconstruction efforts. Are their opinions taken into consideration?"

"The first public discussion of the project took place in the summer of 1987. It was held in one of the biggest halls in the city so that anyone who so desired could come and meet with the authors of the project. In the course of the discussion it became evident that the plan for reconstruction proposed by the design institutes in many ways differed from the public's wishes. A coordinating committee was formed in order to adjust the plans and also to coordinate the efforts of the designers, builders and restorers. And I was made head of the committee. Also on the committee were architects, historians, journalists and representatives of the public — people of various ages and professions. The design was adjusted, taking into consideration the remarks made (both oral and in written form) and now everybody is satisfied.

"It will be a single cultural historical centre both in terms of town planning and in the social sense — a city within a city. It will be governed by an elected Soviet. The reconstructed building of the Town Hall whose foundation is now buried under the pavement will house an exhibition featuring the history of Minsk starting from hoary antiquity. And in its big hall gala receptions and meetings of deputies with the townspeople will be held. The square in front of the Town Hall will become the site of mass meetings, rallies and demonstrations.

"The Upper City is to become the cultural centre of Minsk. The old City Theatre will take the lead. Besides performing on its own stage it will stage pageants in the squares and city streets, in cafes and in the Town Hall. The restored buildings will house museums of ethnography and early Byelorussian art, and the history of the national theatre and music. There will also be a museum of rare books and a collection from the Republic's Cultural Foundation. In several halls modern Byelorussian paintings, works of graphic art and sculptures will be exhibited. Every Sunday so-called one-day exhibits will be held in Exhibition Street where you will be able not only to see but also buy any works of a professional or amateur artist or craftsman which catch your eye. The former Jesuit church and the rebuilt monastery church will be turned into concert halls. The High Market Restaurant and the numerous cafes will offer national dishes and drinks prepared by old recipes. The Upper City will be exclusively for pedestrians, it will be off limits to all cars."

Recorded by Igor GERMENCHUK

## З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ







**На гастролі ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі паехаў Маладзечанскі народны камерны аркестр. Самадзейныя артысты з Беларусі прымуць удзел у фестывалі музыкі «Еўропа-89». Акрамя таго, музыканты выступяць з дзесяццю канцэртамі ў шасці гарадах зямлі Бадэн-Вюртэмберг.**

**Гэта другая паездка калектыву ў ФРГ. У мінулым годзе аркестр паспяхова гастраляваў у Эслінгене.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельніца аркестра педагог маладзечанскай музычнай школы Галіна СКУРАТ; народны камерны аркестр з Маладзечна.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

**Алесь НАВАРЫЧ**

# ЯЗЬ

З ВЯЛІКАЙ прыпяцкай вадой утачыўся вялікі касяк рыбы ў паўнаводны прыток, што выносіў чырванаватую ад торфу даніну воднага багацця балот, якія, быццам венамі, аплецены меліярацыйнымі каналамі. Рыбу перапаўняла магутная жыццёвая сіла, што змушала рухацца наперад, супраць цячэння да далёкіх рачных заток з цёплай і мяккай вадой, у якой сярод гарлачыкаў, рачнога аеру можна было аднераставацца. Рыбіны ішлі правільным руслам, але, калі дайшлі да нароблены́х чалавекам шлюзаў, праз якія не маглі перайсці, збочылі ў новае, нядаўна выкапанае русла. Гэтае русла прывяло на затопленае балота, дзе прыйшлося з цяжкасцю прабівацца праз густыя чараты і лозы, пакуль не натрапілі на нейкую балотную рачулку. Нібы цяжкія, загружаныя мінамі караблі, неслі рыбіны сваю ікру над затопленай поймай гэтай ракі, заплывалі пад двары падтопленых паводкай сядзіб, прабіваліся на паплавах праз плятні... Не адзін дзень пайшоў на гэткія блуканні ў пераменных струменях разлітага балота. І зноў галаўныя рыбы закруціліся перад чорным, аслізлым жалезам шлюза. Некалькі тысяч рыбін спрудзіліся ля перашкоды. Вада бегла зверху, падала, злівалася з серабрыстымі шарыкамі паветра, якое з шыпеннем імкнулася выскачыць з вады. Рыба густа падышла да металічнай застаўкі ў шлюзавым пераходзе. Рыбіна церлася аб рыбіну. Адна-другая спрабавала скокнуць, але не даскокнула да верхняга ўзроўню. Вада ў праходзе вІравала ад рыбы, але перашкода была непераадольная... Праз пэўны час, надвячоркам, пачуліся па зямлі грувасткія крокі, і раптам у праход закінулі сетку. Рыба закаліхавала, пачала скакаць, выскокваць з сеткі, а тая, каторая ўсё ж трапіла, так пацягнула сетку, што гнілаватыя ніткі сеткі не вытрымалі і раз'ехаліся. Рыба ўратавалася. Але тыя, хто тупаў на беразе, у хуткім часе зашылі прорвіну і пачалі закідаць зноў. Цяпер рыба трапляла ў сетку і выцягвалася наверх, дзе была выкінута проста на зямлю. Доўга боўталіся людзі з гэтай сеткай у бетонным праходзе, пакуль не налавілі цэлую горку. Выгналі з хмызняку свой матацыкл і накідалі поўную каляску рыбы. Разварушаны касяк перастаў бунтаваць у рачным русле, апусцілася рыба да дна, сярод карчоў стаілася. Глыбокай ноччу смялейш… рыбін увайшлі ў шлюз… праход, разагналіся і пырхнулі ўгору. І адна рыбіна дамкнула верхняга ўзроўню. Тыя ж рыбы, што ўпалі назад, залапацілі хвастамі ваду, зрабілі круг і на новым ск… пераадолелі перашкод… ал за валам падыходзілі магутныя рыбіны да шлюзавай застаўкі і пераадольвалі яе. Драбнейшая рыба заставалася перад перашкодай. І на другі дзень раніцай некалькі чалавек падышлі кожны са сваёй снасцю да шлюза. Нядоўга яны тут былі, але кожны адышоў, цяжка згінаючыся пад ношкай. Але і пасля такога нашэсця рыба кідалася ўверх, а зверху на яе сыпалася тая, што не змагла даскочыць: пад вадаспадам кіпела нібы ў гаршку. Поўднем да шлюза падышлі яшчэ некалькі чалавек, ужо са стрэльбамі. Бабахнуў адзін, другі стрэл. Пабітыя рыбіны цяжка перакульваліся ў вадзе. Здабывачы хапалі аглушаную рыбу, а тую, што не паспелі ўхапіць, вада прымала ў глыбіню, валакла па дне, каб потым дзе прыбіць да берага на пацеху жукам-скарпіёнам.

Надвячоркам, як толькі сцішылася наўкола і на небе зачырванела поўнымі шчокамі поўня, бліснуў срэбранай калодай здаравенны язь. Хвалі ад яго пайшлі паўкружжамі, а ён адразу пайшоў шукаць глыбіню ў русле, каб толькі ж не рызыкаваць, быццам то сама маці-прырода даражыла гэтым харашуном. Цяпер чарада расцягнулася па цячэнню ракі на некалькі кіламетраў. Вялікі язь ішоў з буйнай часткай рыб, якія згрупаваліся ля яго. Вады рабілася ўсё менш і менш, і, нарэшце, рыбіны апынуліся ў вузкім, даволі глыбокім меліярацыйным канале. Нечакана зврху ў ваду паваліліся здаравенныя глыбы гліны, зямлі, дзёрну. Адзін раз, потым другі раз, а затым пачало і пачало боўтаць у ваду вялізным каўшом. Адкуль рыбам было ведаць, што гэта меліяратары перакопвалі, канал, каб пусціць ваду па новым русле, якое вяло ў вялізнае вадасховішча. Пакуль рыба згрувашчвалася ля бурлівага землявалу, спрабуючы пераадолець перашкоду, экскаватаршчык заўважыў, што то тут, то там блісне рыбіна. Частка з гэтай вялікай чарады паспела праравацца наперад, але вялікая чарада рыбы з магутным язём была спынена нечаканай гаццю. Некаторыя рыбіны ўсё яшчэ спрабавалі кідацца ва ўзбаламучаныя воды, але траплялі ў разбоўтаную жыжу, а наверх яе бухалі і бухалі каўшы з зямлёю. Чарада пачала шукаць другога выхаду. Апусцілася з цячэннем да шлюзавага запрудзішча, але то была дарога назад. Інстынкт кідаў рыбу наперад, на штурм недаробленай плаціны. Экскаватаршчыкі толькі рукамі ўсплёсквалі ад здзіўлення, гледзячы, як рыбіны з далонь, а то і большыя асобнымі штукамі або чародкамі па пяць-шэсць штук штурмавалі, плёхаліся, плескаталі перад земляною перашкодай, якую яны мінута з мінутай нарошчвалі ўверх. Вось добра вымасцілі грэбень, коўш акуратна састругвае пласты блакітнаватай гліны і накідвае гэтую гліну наверх і наверх плацінкі. Праз пэўны час работа была скончана. Вада сабралася па той бок плаціны, знайшла сабе новае русла, пачала запаўняць вадасховішча. А па гэты бок плаціны засталося метраў пад дзвесце старога русла да самага старога шлюза, напоўненага вадою, рыбай, жамчужніцам, ракамі-прудавікамі, жукамі-плывунцамі. Але толькі жукі-плывунцы маглі пераляцець да жывой вады. Экскаватаршчыкі пастаялі ля гэтай адсыпанай часткі рачулкі і вырашылі, што, мабыць, тут добра рыбы ёсць, таму трэба адкрыць шлюз, спусціць ваду, а рыбу пабраць. Быў ужо вечар, таму экскаватаршчыкі вырашылі гэтую справу перанесці на другі дзень, якраз заўтра была нядзеля, і можна было добра палавіць рыбы.

Назаўтра быў туман, было вельмі зручна, каб ніхто не бачыў, ціхенька выкруціць уверх застаўкі, каб вада сыходзіла, а ў праходзе паставілі браднік, які ўзялі ў сваёй гаспадыні, у якой гэтыя меліяратары былі на кватэры. Гаспадыня вельмі здзівілася, што хлопцы палезуць у вясеннюю халодную ваду лавіць рыбу. Яны ж, палазіўшы па вялікай вадзе з паўгадзіны, налавілі поўнае вядро рыбы: плотак, акунёў, язёў, нават некалькі ладных шчупачкоў-пярэзімкаў. Застаўкі апусцілі на былое месца і дамовіліся нікому не расказваць пра такое зручнае для …ваў месца.

Так і …былося. Можа, з месяц насілі гэтыя хлопцы рыбу. Гаспадыня дзівілася іхняму спрыту, суседзі бралі гасцінцы рыбай і спрабавалі дапытацца, якім манерам гэтая рыба налоўлена. Хлопцы звычайн… …аказвалі браднік або на… смеючыся казалі, што налавілі рыбы каўшом свайго экскаватара. Але таямніца выкрылася. Ды і не магла не прыцягнуць увагі гэтая адрэзаная ад вялікай вады канава, у якой з кожным днём рабілася ўсё меней і меней вады, бо вада сцякала праз няшчыльны шлюз, пакуль нарэшце ўзроўні вады да і пасля шлюза не параўняліся. Цяпер лавіць у мелкаватай вадзе можна было тым самым браднікам, плёхкаючы па пояс. І толькі тут экскаватаршчыкі зразумелі, што ў гэтую пастку трапіў добры касяк язёў. Калі яны ўдала падбівалі пад бераг, браднік літаральна хадзіў у руках, столькі рыбін траплялася за раз. Чутка пра язёў разнеслася па сяле. Хуценька прыехалі на «козліку» мясцовыя начальнікі. Яны сваімі рукамі дасталі з легкавушкі новенькі капронавы невадок, параздзяваліся, выстаўляючы бледныя сцёгны і рабенькія трусы. Зацягнулі раз і другі раз. Высыпалі з матні невада проста ў падстаўлены мех язёў, паабмываліся ад бруду і паехалі варыць царскую юшку. Не прайшло і трох дзён, як начальнікі вырашылі паўтарыць захад. Але цяпер яны палучылі ад сваіх жонак па пасудзіне, таму лавілі крыху больш і нават выбіралі з сеткі больш дробную рыбу, каторую кідалі ў спецыяльна ўзяты з сабою бітон, каб потым гэты бітон вывернуць у блізкае вадасховішча, бо трэба было думаць пра будучыню, пра будучыя юшкі, таму трэба было вадасховішча зарыбляць, а то пакуль яно само зарыбіцца!

Пасля начальнікаў пацягнулася на рыбнае месца драбната з вудамі, з прыкормам, а пад вечар з'явіліся людзі з сеткамі.

(Заканчэнне будзе).

## ЗАПРАШАЕ «РАКУРС»

Многія гродзенцы, напэўна, помняць, як восем гадоў назад пры кінатэатры «Чырвоная зорка» з'явіўся новы кінатэатр складанага фільма, які атрымаў назву «Ракурс», а затым стаў кінаклубам, вядомым не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне.

Кожная праграма «Ракурса» была падзеяй у культурным жыцці нашага горада, наведваць яго заняткі лічылася і лічыцца прэстыжным. Многія і да гэтага часу наведваюць іх у асноўным па гэтай прычыне.

У верасні кінаклуб адкрыў свой дзевяты сезон. Праграма яго на рэдкасць насычаная і цікавая: Мілаш Форман—«Любоўныя прыгоды бландзінкі», твор, які здабыў свайму аўтару сусветную вядомасць; Орсан Уэлс — «Грамадзянін Кейн», «лепшы фільм усіх часоў і народаў»; Луіс Бунюэль — «Гэты няясны аб'ект жадання», аб якім яшчэ зусім нядаўна можна было толькі марыць. Дакументальны экран прадстаўлены «Асабістай справай Ганны Ахматавай» С. Аранб'іна. Не абышлося і без кінаавангардызму, які прадстаўлены ленінградскім паралельным кіно. На гэтым праграма, натуральна, не вычэрпваецца. Экран «Ракурса» чакае сустрэчы з лепшымі фільмамі Р. Атэнбора, М. Янча, Э. Ромера, з амерыканскай праграмай А. Міхалкова-Канчалоўскага.

Адкрыла ўвесь гэты калейдаскоп імёнаў і шэдэўраў прэм'ера новага фільма А. Сакурава «Выратуй і захавай».

## «ПЕСНЯРЫ» Ў АФРЫЦЫ

Пачаў гастрольнае турнэ па Заходняй Афрыцы вядомы беларускі калектыў — вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР Уладзіміра Мулявіна. Выступленні «Песняроў» на афрыканскім кантыненце працягнуцца да 10 лістапада.

Пазнаёміліся з беларускай эстраднай песняй і жыхары Кіпра. У гэтай краіне з канцэртнай праграмай у канцы верасня — пачатку кастрычніка выступіў народны артыст БССР Віктар Вуячыч.

## ПОСПЕХ «НЕРУША»

На Еўрапейскім музычным фестывалі, які праходзіў у Штутгарце (ФРГ), вялікі поспех спадарожнічаў народнаму фальклорна-этнаграфічнаму ансамблю «Неруш» Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Яго кіраўнік В. Гладкая расказвае:

— У асноўным у фестывалі прымалі ўдзел студэнцкія калектывы з Англіі, Балгарыі, Венгрыі, Ізраіля, Іспаніі, Швейцарыі і іншых краін.

Нашу краіну, апрача «Неруша», прадстаўлялі яшчэ тры ансамблі з Таліна.

## ПРЭМ'ЕРА «СПАДЧЫНЫ»

У мінскім кінатэатры «Кастрычнік» адбылася прэм'ера навукова-папулярнага і гістарычнага часопіса «Спадчына». Будучыя чытачы пазнаёміліся з супрацоўнікамі новага выдання — органа Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры і Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, пачулі пажаданні беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў новаму часопісу, выступленні яго аўтараў, набылі свежааддрукаваныя экземпляры першага нумара «Спадчыны».

Завяршыў прэм'еру паказ кінастужкі «Беларусьфільма» «Круглянскі мост».

## *У ГАСЦЯХ У СУАЙЧЫННІКАЎ У ЗША*

# НАШЫ ДУШЫ СПЯВАЛІ РАЗАМ

**Нашы замежныя чытачы, мусіць, знаёмыя з заслужанай артысткай рэспублікі Валянцінай ПАРХОМЕНКА. «Голас Радзімы» неаднойчы пісаў пра маладую таленавітую выканаўцу беларускіх народных песень. Не так даўно ў Мінску адбыліся першыя выступленні нованароджанага ансамбля фальклорнай музыкі «Жывіца», які стварыла і якім кіруе гэта самабытная спявачка. Разам з салістам «Жывіцы» Аляксандрам КАЗАКОМ Валянціна Пархоменка ў складзе спецыяльнай турыстычнай групы Беларускага таварыства «Радзіма» пабывала ў ЗША, дзе сустракалася з нашымі суайчыннікамі, выступала з канцэртамі. Карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА гутарыць з артыстамі.**

*— Валянціна, некалькі слоў пра групу, у складзе якой вам давялося пабываць у Амерыцы.*

— У нашу групу, арганізатарам якой было Савецкае таварыства «Родина», уваходзілі прадстаўнікі розных саюзных рэспублік, у асноўным гэта былі спевакі, музыканты. Быў сярод нас свяшчэннаслужыцель з Івана-Франкоўска. У беларускую дэлегацыю ўваходзілі чатыры чалавекі: прадстаўнік таварыства «Радзіма» з Мінска Уладзімір Навіцкі, Аляксандр Казак, баяніст Фёдар Паўлавец і я. Везлі з сабой шмат сувеніраў, нядаўна выдадзены ў нас «Статут Вялікага княства Літоўскага», іншыя кнігі.

*— Які быў маршрут?*

— 10 верасня мы прыляцелі ў Нью-Йорк, адтуль амаль адразу — у Лос-Анджэлес... У Лос-Анджэлесе былі тры дні. Наступны ў маршруце — невялікі гарадок Фрэзна, далей — Сан-Францыска, дзе знаходзіліся два дні, пасля пералёт да суполкі беларусаў у Кліўлендзе (два дні), а потым зноў вярнуліся ў Нью-Йорк.

*— З якой аўдыторыяй вы ў асноўным сустракаліся? Вам слова, Аляксандр.*

— Наша група мела на мэце сустрэчы з эміграцкімі суполкамі ў Штатах самага рознага напрамку. Выходзячы з гэтага быў складзены і маршрут. Напрыклад, у Лос-Анджэлесе мы сустракаліся з малаканамі, з яўрэямі-эмігрантамі. А ў гарадку Наяк, што паблізу Нью-Йорка, — з манархістамі. Так, так. Тыя людзі называлі сябе нашчадкамі царскай фаміліі, вялікіх князёў, вышэйшай расійскай знаці. Перад гэтай аўдыторыяй мы выступалі з вялікім канцэртам. Мелі пасля з імі гутарку, у якой высветлілася, што яны няблага інфармаваны аб падзеях у Савецкай краіне, станоўча ацэньваюць перамены ў Саюзе. У Сан-Францыска ў нас была таксама цікавая сустрэча на тэлебачанні. У час яе была наладжана своеасаблівая прэс-канферэнцыя, калі на сцэну паднімаўся афіцыйны прадстаўнік кожнай дэлегацыі. Яму задавалі пытанні. Адказы і пытанні змяняліся канцэртнымі нумарамі. Праўда, не ўсюды атмасфера сустрэч была такой добразычлівай. Напрыклад, у Лос-Анджэлесе, дзе адбылася сустрэча з армянскай суполкай, гаспадарамі наўмысна стваралася атмасфера нецярпімасці, напружанасці, недружалюбнасці. Гэта было непрыемна.

*— А як вас сустрэлі беларусы?*

— Сустрэч з беларусамі мы чакалі з найбольшым хваляваннем. Многа чулі пра нашу амерыканскую эміграцыю, пра яе асяродкі ў Кліўлендзе, «Полацаку», Нью-Йорку. Давайце ўсё па-парадку, як гэта было. У Кліўлендзе ў гасцініцы нас сустрэлі тутэйшыя беларусы і, не чакаючы ні хвіліны, павезлі да сябе. У царкве, дзе павінна была адбыцца сустрэча, нас з нецярплівасцю чакалі людзі. Як аказалася, яны былі тут ужо некалькі гадзін, бо не ведалі пэўна, калі мы прыедзем. Адразу з дарогі мы і распачалі тут канцэрт, які доўжыўся дзве гадзіны. Выконвалі народныя песні розных рэгіёнаў Беларусі. Сярод прысутных аказалася многа людзей — выхадцаў з Палесся. Калі я, Аляксандр Казак, таксама паляшук, праспяваў некалькі гэтых песень, да мяне падскочылі ўзрушаныя слухачы. Яны кінуліся нас абдымаць, цалаваць. Казалі: «Мы з Лунінца, з-пад Пінска. Мы шчаслівыя і гордыя, што нарэшце дачакаліся сваіх, з Палесся. Няхай усе ведаюць, якія ў нас песні». А калі пачалі расказваць, як ездзілі па Беларусі, збіраючы фальклор, адразу пасыпаліся заяўкі — кожны хацеў паслухаць песню свайго рэгіёна. Паміж намі і гледачамі адразу наладзіліся простыя, душэўныя адносіны. На далёкай амерыканскай зямлі мы былі сярод сваіх. Нас разумелі, нас любілі, нас хацелі слухаць, бо мы былі тонкай ніццю, праз якую яны жыва адчулі сваю повязь з Радзімай. Людзі плакалі, і мы таксама не маглі стрымацца. Пасля канцэрта свяшчэннік паказаў нам царкву. Мы былі ўражаны роспісам невялічкай залы: хлопцы і дзяўчаты ў прыгожых беларускіх строях, магутныя зубры — і ва ўсіх сумныя блакітныя вочы. Той роспіс у Кліўлендскай царкве выканала мастачка з Нью-Йорка. Ён кожны раз паўстае цяпер перад вачыма, калі я прыгадваю паездку ў Амерыку.

*— Якое ўражанне зрабіў на вас «Полацак»?*

— У «Полацаку» мы, на жаль, былі вельмі нядоўга. Трапілі туды пад ноч, пасля канцэрта ў Кліўлендзе. З Сяргеем Карніловічам і Кастусём Калошам, гаспадарамі «Полацака», у якіх мы спыніліся, мы прагаварылі да самай раніцы. Перадалі ім кнігі ад таварыства «Радзіма», сувеніры ад знаёмых з Мінска, яны нам паказалі касету, на якой запісана сустрэча з Вольгай Корбут і Леанідам Барткевічам. Яны нам таксама ўручылі кнігі, што выдаюцца Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Можа, на пару гадзін мы прылеглі, а з раніцы пайшлі на агледзіны «Полацака». Адразу нават узнікла думка, што мы зусім не ў Амерыцы, а недзе ў сябе ў Беларусі — настолькі гэты куток нагадваў нам родныя мясціны. І кліматычныя ўмовы тут блізкія да нашых, і дрэвы такія самыя, і азярцо, і будыніна, у якой жывуць Карніловіч з Калошам... Па словах гаспадароў, неўзабаве тут пачнецца будаўніцтва Палаца культуры, збіраюцца перавозіць царкву з Кліўлендзе. Цяпер там, дзе мяркуюць узводзіць палац, ссякаюць дрэвы, хаця іх і так небагата.

Ужо днём у «Полацаку» быў наладжаны вялікі канцэрт, на які прыехалі суайчыннікі з Дэтройта. Зала ў «Полацаку» малаватая, не прыстасаваная для канцэрту, а людзей сабралася нямала... Сваё выступленне пачалі з песні «У цёмным лесе гаманіна», якая была запісана на Полаччыне, у вёсцы Сякераўшчына. Валянціна звярнулася да слухачоў і сказала ім, што гэта песня вельмі старажытная, з даўняй даўніны, што мы прывезлі ім паклон ад зямлі полацкай, ад зямлі беларускай. І зноў больш за дзве гадзіны працягваўся канцэрт. Мы спявалі беспярэпынна, а слухачы ўсё прасілі і прасілі. Тады я іграў на саломцы, якая то плакала, то смяялася ў маіх руках, а па просьбах гледачоў, сярод якіх аказаліся і рускія, і украінцы, спяваў і іх народныя песні. Да нас падыходзілі людзі і прасілі пакінуць ім свой адрас, каб можна было напісаць ліст на Радзіму, казалі, што хочуць прыехаць туды, усім сэрцам жадаюць дапамагчы Беларусі, якую спасцігла чарнобыльская бяда. Было кранальна чуць гэтыя словы суайчыннікаў, адчуваць іх шчыры клопат пра сваю Бацькаўшчыну, пра ўсё, што адбываецца на яе зямлі.

*— А ці былі ў вас сустрэчы з суайчыннікамі ў Нью-Йорку?*

— Вельмі шкада, але ў Нью-Йорку ў нас не была запланавана сустрэча з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі. І толькі па шчаслівай выпадковасці на наш канцэрт у ААН у Нью-Йорку трапілі Ала Орса-Рамана, Вітаўт і Зора Кіпелі. Пра тое, што мы знаходзімся ў Нью-Йорку, Ала даведалася па тэлефоне ад Кастуся Калошы з «Полацака». Жанчына пазваніла нам у гасцініцу і сказала, што вельмі хацела б паслухаць, як мы спяваем. А яшчэ папрасіла нас прыйсці на сустрэчу са студэнтамі Нью-Йоркскага універсітэта. (Ала Орса-Рамана працуе там прафесарам). Яна запрашала нас да сябе ў госці, казала, што мае чым пачаставаць — стравамі з бульбы і шчаўя... Але мы мусілі ад усяго адмовіцца, бо адразу пасля выступлення ў ААН павінны былі ехаць у Наяк на сустрэчу з манархістамі. Мне асабіста было дужа няёмка адмаўляцца ад сустрэч са сваімі суайчыннікамі ў Нью-Йорку, тым больш, што яны вельмі імкнуліся да гэтага. Ды і з Алай Орса-Рамана мы сустрэліся ў далейшым толькі таму (хаця яны і прыйшлі да рэзідэнцыі ААН, але не маглі трапіць да таго ўваходу ў будынак, куды падвезла нас машына), што былі апрануты ў беларускія строі, і дзякуючы гэтаму, былі заўважаны здалёк. «Беларусы! Беларусы!» — пачулі мы ўсхваляваныя галасы. Супрацоўнік прадстаўніцтва БССР у ААН правёў іх у залу, дзе павінен быў адбыцца канцэрт. Ужо толькі там мы пазнаёміліся з Алай Орса-Рамана, якая, як мы ведалі, з'яўляецца кіраўніком танцавальнага калектыву «Васілёк». Калі мы пачалі спяваць у вялікай зале ААН, то заўважылі, як нам падпявае Ала. Яна ведала амаль што ўсе песні. Ды і наогул сама прысутнасць беларусаў, іх шчырае пачуццё гордасці і годнасці дапамагалі, надавалі сіл. Гэта было як прыток кіслароду. Нашы душы спявалі разам. Тады яшчэ Аляксандр Казак зайграў на саломцы. І для ўсіх прысутных быў гэта такі цуд! Яны падыходзілі, прасілі пагледзець саломку, спрабавалі выдабыць з яе хоць адзін гук. Але ж гэта няпроста. Дзіўна ўсё ж, што калі Ала Рамана ўзяла саломку і прыклала яе да вуснаў — пачулася мелодыя... Толькі ў час абеду ў ААН мы мелі магчымасць перакінуцца словамі з Алай і з Кіпелямі. Яны прасілі ў нас пласцінку або касету з запісамі нашых песень, але, на жаль, мы не маглі гэтага зрабіць, бо не мелі іх.

*— Цікава, што якраз, калі вы знаходзіліся ў Амерыцы, у Беларусь прыехаў Данчык...*

— У мяне пыталіся: «Як там наш Данчык?» Але я не магла сказаць, як гэтага выканаўцу беларускіх песень з Нью-Йорка прымаюць у Беларусі. Раз'ехаліся мы. Вярнуўшыся ў Мінск, пабывала на адным з яго канцэртаў, была сведкай таго, з якім вялізным поспехам праходзяць выступленні Данчыка ў Мінску. Відаць, «Голас Радзімы» яшчэ напіша пра Данчыка... Я таксама мяркую сустрэцца з ім, пазнаёміць з нашым фальклорным калектывам.

---

## НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫЯ СЁННЯ САВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

# ЧЫТАЦКІ РЭФЕРЭНДУМ

Каго з айчынных пісьменнікаў больш за ўсё чыталі ў СССР у 1988 годзе і ў першай палове 1989? Гэта высветлілася пасля апытанняў чытачоў і работнікаў бібліятэк, анкетавання, праведзенага Цэнтральным тэлебачаннем, штотыднёвікам «Книжное обозрение», газетай «Вечерняя Москва».

Кнігай № 1 стала аповесць Льва Разгона «Непрыдуманае». Л. Разгону цяпер 81 год. Літаратурная слава прыйшла да яго занадта позна... Лепшыя гады жыцця літаратара прыпадаюць на лагеры Гулага. Ён бачыў многа страшнага, перанёс нямала цяжкасцей. Аднак кніга «Непрыдуманае», прысвечаная ў асноўным гэтаму перыяду жыцця Разгона, пазбаўлена горычы. Мемуары эпохі сталінскага ўсеўладдзя праўдзівыя і цікавыя. І павучальныя.

Л. Разгон быў асабіста знаёмы з многімі ўплывовымі партыйнымі функцыянерамі, дзяржаўнымі дзеячамі. Са Стасавай, Ракоўскім, Варашылавым... Яму давялося нават сядзець за сталом і піць гарэлку з будучым наркомам карных органаў Яжовым, катам 1937 года. У турмах і лагерах ён пазнаёміўся з сябрам апошняга рускага цара адміралам Міхаілам Рашчакоўскім і жонкай савецкага прэзідэнта Кацярынай Калінінай.

Так што поспех мемуараў Разгона лёгка тлумачыцца. І зусім не выключана, што яны стануць і найбольш чытаемай савецкай кнігай на Захадзе. Жаданне набыць права на выпуск кнігі ўжо выказалі многія замежныя выдавецтвы. Іх колькасць узрасла ў час традыцыйнага Міжнароднага кніжнага кірмашу ў Маскве ў верасні гэтага года.

У першую пяцёрку разам з кнігай Разгона ўвайшлі «Чорныя камяні» Анатолія Жыгуліна, «Катлаван» Андрэя Платонава, «Жыццяпіс Міхаіла Булгакава» Марыэты Чудаковай, «Факультэт непатрэбных рэчаў» Юрыя Дамброўскага.

Кніга № 1 1987 года — «Дзеці Арбата» Анатолія Рыбакова — перамясцілася на сёмае месца. Тлумачыцца гэта, відаць, перш за ўсё тым, што яна ўжо прачытана большасцю чытачоў.

У спісах найбольш папулярных аўтараў — па-ранейшаму гістарычны пісьменнік Валянцін Пікуль і аўтар палітычных дэтэктываў Юліян Сямёнаў. Затое няма Уладзіміра Дудзінцава, Аляксандра Бека, Данііла Граніна — лаўрэатаў 1987 года. Іх кнігі, як і «Дзеці Арбата» Рыбакова, мінулі свой пік, прачытаны і перачытаны большасцю чытачоў.

Паэзія, асабліва сучасная, вялікім поспехам не карыстаецца. З паэтаў у спісы папулярных трапілі толькі Булат Акуджава — сёмае месца і Станіслаў Куняеў — дзесятае. А першыя месцы ў Мікалая Гумілёва, Марыны Цвятаевай, Ганны Ахматавай. Чытач, які атрымаў нарэшце магчымасць выбару і параўнанняў, аддае перавагу ў першую чаргу творам высокага мастацкага ўзроўню. У паэзіі мастацкасць актуальнасцю падмяніць немагчыма. Так што можна гаварыць аб падзенні цікавасці да паэзіі дэкларатыўнай, ілюстрацыйнай і аб павелічэнні цікавасці да паэзіі высокай, сапраўднай.

Яшчэ больш, чым у мінулыя гады, вырасла цікавасць да публіцыстыкі. Самыя папулярныя Васілій Сялюнін і Мікалай Шмялёў. Сярод класікаў першыя месцы падзялілі пісьменнік і гісторык мінулага стагоддзя Мікалай Карамзін (цікавасць да гісторыі — і далёкай і самай нядаўняй—у краіне цяпер надзвычай вялікая) і Фёдар Дастаеўскі, які перажывае сёння нібыта другое нараджэнне.

Чытацкі рэферэндум прадэманстраваў, што прызнаннем грамадскасці па-ранейшаму карыстаюцца такія літаратары, як Васілій Шукшын, Фазіль Іскандэр, Валянцін Распуцін, Анатолій Прыстаўкін. Што маюць свайго «ўстойлівага» чытача Васілій Гросман, Віктар Астаф'еў, Уладзімір Высоцкі, Барыс Пастэрнак.

Дванаццаць найбольш папулярных публіцыстаў узнагароджаны дыпломамі Інстытута кнігі. Апрача ўжо названых Сялюніна і Шмялёва гэта Фёдар Бурлацкі, Наталля Іванова, Юрый Каракін, Гаўрыіл Папоў, Юрый Чарнічэнка...

І апошняе, што хацелася б падкрэсліць. У СССР амаль адсутнічае рэклама мастацкай літаратуры. Такім чынам, названыя чытачамі літаратары і іх кнігі — вынік адвольнага выбару, які адлюстроўвае рэаліі сённяшняга дня, настроі сучаснага жыцця.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## БІЯТЛОН-90: ПЕРШЫНСТВА СВЕТУ

# ЗАПРАШАЕ ЗАЙКА НА КРУТЫЯ ГОРКІ

Зайчаня ў спартыўнай шапачцы і з вінтоўкай за плячамі скача ў ...Раўбічы. Тут на маляўнічых узгорках у лютым будучага года пройдзе чарговае сусветнае першынство біятланістаў, чыім талісманам і будзе гэты звярок. І хаця да стартаў яшчэ дастаткова часу, гаспадары па добрай традыцыі пачалі падрыхтоўку да сустрэчы гасцей.

Для тых, хто не быў на гэтым комплексе некалькі гадоў, ён здасца значна абноўленым. У яго ландшафт прыгожа ўпісаліся спартыўная зала з назіральнай вежай, трамплін, гарбатыя масткі праз рачулку Усяж, уздоўж берагоў якой размясціліся казачныя паляўнічыя домікі. У гэтых імправізаваных раздзявалках для спартсменаў і трэнераў можна пагрэцца, падрыхтаваць рыштунак, папіць гарачага чаю.

Зручней стала і гледачам. За ходам спаборніцтваў ім дапаможа сачыць спецыяльная светлавая ўстаноўка, на якой аператыўна будзе адлюстроўвацца ход барацьбы на этапах. Дарэчы, гонкі і стральбу аматары спорту змогуць назіраць і з трыбун, разлічаных больш чым на 10 тысяч чалавек. Для тых, хто на іх не ўладкуецца, прадугледжаны зручныя месцы ўздоўж трасы, а таксама на цэнтральнай назіральнай пляцоўцы.

Адной з першых афіцыйных асоб, хто пабываў цяпер у Раўбічах, быў Петэр Баер з ФРГ. Знаходзячыся ў ролі тэхнічнага дэлегата міжнароднага саюза сучаснага пяцібор'я і біятлона (УІПМБ), ён асабліва старанна інспектаваў спартыўную арэну. На яго думку, арганізатары, якім даводзілася неаднаразова праводзіць падобныя спаборніцтвы, не зведваюць сур'ёзных цяжкасцей. Старанна памераўшы трасы, афіцыйны госць заявіў, што яны поўнасцю адпавядаюць тэхнічным патрабаванням. Адносна стрэльбішча было заўважана, што яно мае патрэбу ў значнай рэканструкцыі, гэта дазволіць весці больш прыцэльны агонь. Пакуль жа адхіленні ад патрабаванняў уплываюць на паказчыкі пры стральбе.

Пацвярджэннем таму было выступленне на ўсесаюзных спаборніцтвах, якія праходзілі тут, «летніх» біятланістаў. Развіваючы на лыжаролерах высокія скорасці, яны спатыкаліся на стральбе. Нават алімпійскі чэмпіён, неаднаразовы пераможца сусветных першынстваў Валерый Мядзведцаў у гонцы на 20 кіламетраў страціў на агнявым рубяжы дзве мінуты.

Петэр Баер выказаў таксама прэтэнзіі да тэхнічнага аснашчэння суддзейскай службы і інфармацыйнага цэнтра, ад работы якіх у многім залежыць аператыўнае асвятленне ў прэсе гэтых спаборніцтваў. Па яго словах, тут можа аказаць дапамогу Міжнародны саюз і генеральны спонсар чэмпіянату пасрэдніцкая фірма з ФРГ «ОМФ».

Асаблівасцю гэтага сусветнага спаборніцтва з'яўляецца тое, што ўпершыню ўсе ўдзельнікі, прадстаўнікі розных фірм, хто б[illegible] рэкламаваць сваю прад[illegible]ыю, размесцяцца ў Раўбічах. Тут жа адкрыецца культурны цэнтр, мяркуецца арганізаваць латарэю, па якой сярод іншых прызоў можна выйграць легкавы [illegible]эмабіль.

У дні чэмпіянату ў наваколлі снежнага стадыёна адкрыюцца аўтастаянкі. «Гараж» пад небам зможа ўмясціць некалькі тысяч машын. Кожны, хто пабывае на спаборніцтвах, зможа набыць сувеніры — значкі, розныя вырабы з эмблемай чэмпіянату, вымпелы, буклеты... І, вядома ж, вясёлага зайчыка з вінтоўкай за плячамі.

**В. ДУТАЎ.**



Чэмпіёнам Еўропы вярнулася з Італіі зборная СССР па вадналыжнаму спорту. З вялікім адрывам — 400 ачкоў — яна атрымала перамогу над зборнай Англіі, якая заваёўвала гэты ганаровы тытул чатырнаццаць разоў. Радасць савецкіх вадналыжнікаў у поўнай меры падзялілі члены мінскага клуба «Алімпія». Бо ў саставе зборнай былі чатыры іх таварышы — выхаванцы заслужанага трэнера СССР Віктара Наважылава: двухразовая чэмпіёнка Еўропы Марына Амяльянчык, рэкардсмен СССР у скачках з трампліна сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы Дзмітрый Яськевіч, неаднаразовы чэмпіён краіны і Еўропы рэкардсмен у фігурным катанні Аляксандр Мінёнак і майстар спорту міжнароднага класа шматразовы чэмпіён Еўропы сярод юніёраў Алена Мазоўка. Менавіта на вадзе Воўчкавіцкага вадасховішча пад Мінскам яны рабілі свае першыя крокі ў спорце, адточвалі майстэрства. Сюды вяртаюцца з перамогай.

Віктар Наважылаў падрыхтаваў нямала славутых спартсменаў-вадналыжнікаў. Ужо шмат гадоў яны паспяхова выступаюць на сп[illegible]рніцтвах самага высокага рангу. Тры [illegible]і прывезлі мінчане і з Мілана. М. Амяльянч[illegible] — серабро, А. Мазоўка — бронзавыя медалі ў мнагаборстве і фігурным катанні. А Дзмітрый Яськевіч устанавіў у Італіі новы рэкорд Савецкага Саюза ў скачках з трампліна — 55,6 метра, тым самым палепшыўшы сваё ўласнае дасягненне на два з палавінай метры.

А ў «Алімпіі» падрастае змена — Алеся Паўлава, Юля Грамыка, Святлана Кабялка. Дзяўчаты ўжо заваявалі званні майстроў спорту міжнароднага класа, неаднаразова станавіліся прызёрамі міжнародных спаборніцтваў юніёраў. У актыве Алесі Паўлавай нават своеасаблівы рэкорд. За пяць гадоў выступленняў у кубку «Дружба» з 20 магчымых залатых медалёў яна заваявала 19 і адзін сярэбраны, выдатна праявіўшы сябе і ў фігурным катанні, і ў слаламе, і ў скачках з трампліна.

У клубе «Алімпія» пануе атмасфера дружбы, увагі да тых, хто робіць у спорце першыя крокі. І гэта дапамагае яго членам узнімацца да вышынь майстэрства.

**Г. СЯРГЕЕЎ.**

НА ЗДЫМКУ: Віктар НАВАЖЫЛАЎ (справа) і рэкардсмен Савецкага Саюза па скачках з трампліна майстар спорту міжнароднага класа Дзмітрый ЯСЬКЕВІЧ.

Фота Г. СЯМЁНАВА.




У Афінах прайшоў чэмпіянат свету па цяжкай атлетыцы.

І зноў, як і на Алімпійскіх гульнях у Сеуле, не было роўных у вагавой катэгорыі звыш 110 кілаграмаў Аляксандру Курловічу. У рыўку ён паказаў 215 кілаграмаў. А ў штуршку — 245 кілаграмаў. І калі ўсе яго галоўныя сапернікі завяршылі выступленне, беларускі асілак вырашыў пабіць сусветны рэкорд мінчаніна Леаніда Тараненкі. 262,5 кілаграма змог штурхнуць Аляксандр Курловіч. Але з-за рознагалоссяў суддзяў гэты рэкорд не быў залічаны.

Наперадзе ў Аляксандра яшчэ нямала стартаў. Можна меркаваць, што ён устновіць яшчэ не адно сусветнае дасягненне.

НА ЗДЫМКУ: заключны выхад Аляксандра КУРЛОВІЧА на памост у Афінах.

## ЧЭМПІЯНАТЫ, ТУРНІРЫ, СУСТРЭЧЫ!

У Штутгарце прайшоў чэмпіянат свету па спартыўнай гімнастыцы. І ў мужчын, і ў жанчын першыя месцы занялі зборныя СССР. За камандную перамогу залатымі медалямі ўзнагароджаны мінчанка Святлана Багінская і Святлана Баітава з Магілёва.

Паспяхова выступілі савецкія спартсмены і ў асабістым заліку. Чэмпіёнамі свету сталі Ігар Карабчынскі і Святлана Багінская.

Міжнародны матч па футболу паміж мінскай камандай «Тарпеда» і «Віслай» з польскага горада Плоцк завяршыўся з лікам 3:1 на карысць беларускіх спарстменаў.

Спартсмены мінскай каманды «Прамень» у ЗША выйгралі буйны міжнародны турнір па хакею на траве. У спаборніцтвах прынялі ўдзел 16 каманд. Лепшым іграком турніру прызнаны мінчанін Уладзімір Кашкар.

XI міжнародны марафон прайшоў у Варшаве. Беларускі спартсмен Сяргей Казлоў заняў тут другое месца.

Вызначыўся сапернік мінскага «Дынама» ў розыгрышы Кубка футбольнага саюза. У фінале нашы спартсмены сустрэнуцца з днепрапятроўскім «Дняпром».

Пяць сустрэч — пяць перамог. Так згуляла ў Панявежысе зборная каманда Савецкага Саюза па гандболу на міжнародным турніры. У фінале яна перамагла нарвежак — 25:17. У складзе нашай каманды выступалі мінчанкі Святлана Жыхарава і Святлана Страшко.

# САМЫ ПРЭСТЫЖНЫ ТРАФЕЙ

Яшчэ добра помніцца напружаны фінальны матч гандбалістаў мінскага СКА з румынскай «Сцяуа» за Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. Тады ганаровы прыз дастаўся беларускім спартсменам. Што ў перспектыве?

— Марым перамагчы ў розыгрышы Суперкубка Еўропы, — коратка падзяліўся тады сваімі планамі з журналістамі трэнер СКА Спартак Міранавіч. — Гэта зрабіць будзе вельмі цяжка, бо яшчэ ніколі савецкія каманды не выйгравалі фінал у матчах за самы прэстыжны трафей.

Гуляць трэба было ў гасцях. Па рашэнню Міжнароднай федэрацыі ручнога мяча розыгрыш Суперкубка заўжды праводзіцца ў ФРГ. І, як правіла, заходнегерманскія клубы дамагаліся права гуляць у фіналах. Усяму свету добра вядома моц каманд ФРГ. Але на гэты раз Суперкубак упершыню адправіўся ў беларускую сталіцу.

Спачатку ў Дортмундзе прайшоў «Турнір чэмпіёнаў». Мінчане пачалі яго няўдала: прайгралі ТУСЕМу. Гэта была першая і апошняя асечка. Беларускія спартсмены перамагаюць іспанскую «Атлетыку», каманду горада Дортмунда, выйграюць у маскоўскага ЦСКА і выходзяць у фінал, дзе бяруць верх над славутым «Гумерсбахам». Ёсць першы прыз!

Але, як настройваў сваіх спартсменаў Спартак Міранавіч, галоўнае — перамагчы ў розыгрышы Суперкубка Еўропы. Рашаючая гульня зноў з тым жа ТУСЕМам у горадзе Эсэне. Толькі на гэты раз матч ішоў па іншаму сцэнарыю: пад знакам перавагі гандбалістаў СКА. Дарэмна шэсць тысяч балельшчыкаў, што сабраліся ў зале, падтрымлівалі сваю каманду. ТУСЕМ, было бачна, уступаў па класу гульні добра адладжанаму калектыву з Мінска. З кожнай мінутай гульні беларускія гандбалісты ўмацоўвалі сваю перавагу. Фінальны свісток зафіксаваў іх перамогу з лікам 32:22. І яшчэ адзін прыз, Суперкубак, быў уручаны гандбалістам СКА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1216